／БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня. Віленская вул. 33.
Рэдакцыя адчыняна: 10—2 штодня апрача
сьвяточных дзён.

Цана кожнага нумэру 5 м.
Падпіска на 3 месяцы каштуе 50 м. (з дастаукай да хаты).
Цана абвестак: 5 м. за радок пэтыту (на апошняй стр.).

Год I. Вільня. Аўторак, 12 красавіка 1921 г. № 3.



# Рыжскі трактат і беларускае пытаньне.

Міравы трактат Польшчы з Расеяй і Украінай, падпісаны ў Рызе 18 сакавіка г. г. ў артыкуле другім кажаць аб тым, што абедзьве стараны прызнаюць незалежнасьць Украіны і Беларусі—„згодна з асновамі самаазначаньня народаў“. А ў далейшым працягу таго артыкулу праводзіцца ўсходняя граніца Польшчы, якая разразае беларускіе і украінскіе землі, разрывае жывое цела беларускага і украінскага народу (згодна з асновамі самаазначэньня!..)

Проста ня верыцца ў магчымасьць такой граніцы: Польшча вузкім клінам цераз беларускую тэрыторыю ўразаецца паміж Літвой і Беларусьсю, няма ведама чаго шукаючы на Дзьвіне (хіба-ж ня выхаду ў мора цераз Рыжскую затоку?); абшар „незалежнае Беларусі“ застаецца адрэзаны гэтым клінам ад Літвы і Латвіі, сваіх найбліжэйшых і натуральных суседаў.

Што-ж кіравала ў гэтым разе польскімі палітыкамі, ад якіх фактычна залежыла разьвязка беларускае справы? Няўжо-ж разумные інтэрасы свайго народу?

Не!— Кіразала імі эндэцкая злоснасьць і бальшавіцкая хітрасьць.

Справу незалежнай Беларусі (не-савецкай) у граніцах 1772 г., а прынамсі да Дняпра і Дзьвіны адваяваць у бальшавікоў было дужа лёгка, як згаджаюцца бліз усе польскіе міравые дэлегаты. Самі бальшавікі эвакуіраваліся з Беларусі. Менск быў заняты польскім войскам.

Але эндэкі збаяліся беларускай справы, збаяліся, што беларусы, маючы свой нацыянальны цэнтр у Менску, не паддадуцца так лёгка прымусовай полёнізацыі, колёнізацыі і іншым іхнім плянам. Трэба, значыць, аддаць Менск бальшавікам, каб здусіць і змусіць маўчаць беларусаў. Пачуўшы сілу беларускага нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэньня, яны выракліся навет „лініі Дмоўскага“, свайго ідэйнага бацькі і палітычнага правадыра.

Кажуць, што польскі дэлегат п. Грабскі (эндэк), выйшаўшы з паседжаньня, дзе яму „удалося“ аддаць Менск бальшавіком, пацiраючы рукі ад радасьці, хваліўся сваім спрытам і палітычным розумам: „хай, кажа, маюць беларускую справу бальшавікі, а не мы (палякі)“.

Добра! Нельга вымагаць, каб хто займаўся чужымі справамі без карысьці для сябе, а ад эндэцкіх апекуноў — самі скажам—крый нас, Божа! Толькі тады нашто ўразацца так глыбака у беларускіе землі, нашто вясьці граніцу аж да Дзьвіны? Шукаючы палякоў, можна было-б працягнуць дзяржаўные межы аж... да Табольска. Але-ж Polska do Tabolska—гэта толькі жарт. Хіба-ж ня вельмі карысна для Польшчы было ўзбудзіць падазрэньне у Латвіі нічым не апраўданым суседзтвам. Бальшавікі добра зразумелі, што гэтакая граніца будзіць нязгоду і неўспакой паміж тымі народамі, якіх згода была бы іх пагібельлю — і ня спорылі доўга, каб не псаваць гумару п. Грабскаму.

Няма што казаць, што беларускі народ ніколі ня прыз ае рыжскага трактату, які яго разрывае на часьці і па часьцёх прадае. Заўсёднаю, безупыннаю яго думкаю будзе разарваць навязаные яму гранічные ланцугі, каб зьліцца у адну Непадзельную і запраўды Незалежную Беларусь.

Рыжскі трактат апіраецца быццам на праве самаазначаньня народаў. Але-ж Беларусь ужо весь мінула тры гады як ска-

зала, што яна хоча быць дэмократычнай (народнай) рэспублікай. Урэшці, праўду кажучы, навет Савецкая Беларусь трактату не падпісывала, а за яе гаварыла Расея. Чаму польскіе прадстаўнікі не дамагаліся прадстаўніцтва прызнанай у трактаце Беларусі, чаму трактат напісаны толькі папольску, расейску і украінску?

Мы робім такі вывад: ніякая Беларусь міру не падпісала і—не прызнае.

Ды наагул польская дэлегацыя, відаць, „мала цікавілася“ беларускай справай: працiў прэлімінарных умоў і інтэрасаў свайго народу яна з лёгкім сэрцам згадзілася на далучэньне Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Смаленшчыны да Масквы, згаджаючыся на граніцу з Расеею уздоўж мяжы Віцебскай губэрні.

Мы пераконаны, што здрада беларускай справы не задоўга помсьціцца на яе спраўцах. Ужо мы бачым пасьлядзтва рыжскага трактату ў „віленскім пытаньні“. Ен стварыў такое палажэньне, з якога—баімося—адзіным выхадам будзе толькі вайна паміж Польшчаю і Літвой. Пакідаючы Менск бальшавіком „хітры“ п. Грабскі не дадумаўся, што гэтым самым ён ставіць справу Вільні на дужа коўзкую дарогу выключна літоўскіх прэтэнзій, узмацаваных часьцю беларускіх сіл, якіе разьбіла польская афіцыяльная палітыка яшчэ летась у Менску, а давяршыў рыжскі трактат. Калі-б Беларусь ня была аддадзена бальшавіком, у справе Вільні перад усім гаварылі-б беларусы з палякамі і кончылася-б гэта справа не вайною, а—спадзяёмся—саюзам роўнапраўных, ў якім і літвіны знайшлі-б сваё мейсца.

Гэтак рыжскі мір вядзе да вайны. Ня хочыцца верыць, каб усходняя граніца Польшчы была падыхтована ахвотай польскіх палітыкаў да новай вайны. Гэта было-б ашуканствам народу, які хоча і патрабуе супакою пасьля сямі-летняе калатні. Не! гэта скарэй бальшавіцкая хітрасьць, бо для Савецкай Расеі нейкая вайна, ды йшчэ паміж яе суседзямі—адзіны ратунак.

**Тарас Навіна.**

---

# Адам Гурыновіч.

Шчасьлівым здарэньнем захавалася і цяпер можа паказацца на сьвет у друкаванай вопратцы невядомая дагэтуль літэратурная спадчына Адама Гурыновіча, беларускага паэта канца 80-тых і пачатку 90-тых гадоў.

Не кажучы ўжо аб тым, што, як пабачым ніжэй, Адам Гурыновіч зьяўляецца аўтарам аднаго з найбольш папулярных беларускіх «вандроўных» вершаў, г. ё. «Панскага ігрышча»,—яго літэратурная творчасьць, зьмяшчаючая ў сабе стольні грамадзкага і сьвядома-нацыянальнага элемэнту, выклікае ў нас глыбокае зацікаўленьне і—вялікі жаль ў беларускім сэрцы да тагочасных варункаў жыцьця і бязлітаснага лёсу, які ў маладых гадох зламаў кволае жыцьцё песьняра, ня пазволіўшы дайсьці яму да магчымага разьвітку і вялічыні.

Адам Гурыновіч, сын Калікста і Элеоноры з Сеняўскіх Гурыновічаў, радзіўся у двары сваей маці, Кавалёх, Віленскай губэрні, Вялейскага павету у 1869 годзе. Скончыўшы віленскую рэальную школу, паехаў у Тэхнолёгічны Інстытут у Пецярбурзі, дзе спэцыяльна займаўся ўлепшаньнем паравозаў і ў гэтым пытаньні меў быць, як кажуць, на дарозе да важных і цікаўных вымыслаў (навуковые рукапісы разам з часьцю літэратурных зьніштожаны перад адным з обыскаў).

У 1893 годзе за прыналежнасьць да рэволюцыйнага руху Гурыновіча арыштавалі. Справа яшчэ пагоршылася, калі сярод яго папераў знайшлі напісаны ім беларускі верш, ў якім ён заве беларускі народ прачнуцца і скінуць з сябе царскае ярмо. Прабыўшы блізка год у Петрапаўлаўскай крэпасьці, Гурыновіч моцна занядпаў на здароўі і быў звольчены пад надзор паліцыі ў двор бацькі свайго, Крыстынополь, Сьвенцянскага павету, дзе пасьля колькі дзён захварэў на чорную воспу, прывезеную з паўночнай сталіцы, і памёр 14 студня 1894 г.

Пахаваны ў Крыстополі ў фамільных грабніцах.

Яшчэ ў апошніе хвіліны свайго жыцьця, маючы надзею перамагчы страшэнную хваробу, снаваў пляны будучае працы на ніве роднага краю з думкаю будзіць і клікаць да жыцьця мову і літэратуру беларускага народу...

Вось што пачуў я ад найбліжэйшае радні паэта: сястры—п. Констанцыі з Гурыновічаў Стрэнкоўскай, ў якой і прахавалася тая часьць спадчыны паэта, што цяпер друкуем, брата—п. Яна Гурыновіча і братаніцы панны Яніны Гурыновіч, якой выражаю асаблівую падзяку за біографію стрыя і спагаданьне яе публікацыі ягоных твораў.

Тое, што знаходзіцца у нашых руках, гэта толькі невялічкая часьціна творчасьці Гурыновіча, і магчыма знойдуцца йшчэ яго творы.

Тымчасам вось што мы маем: вершы— 1) да Мацея Бурачка, 2) Што ты сьпіш мужычок, 3) Бор, 4) Вясна, 5) Вечны рэволюцыонэр дух, 6) Што за за звук так громка раздаўся, 7) Перш марылі (?) паны, што шляхтай зваліся, 8) Думкі, 9) Вяльля (пераклад з Міцкевіча), 10) Рэха (пераклад з Пушкіна), 11) Мароз (пераклад з Некрасава), 12) Восень (пераклад з Ал. Толстога), 13) Вясна (перак. з Каспровіча), 14) Гібніць заранчьча стольні цьвяткоў (перакл. з Каспровіча), 15) Зьвярынец, 16) Вясельчак, 17) Паслухайце дзеўкі (незакончана), 18) Калі-ж у нас так было, 19) Раз у Зольках у дзярэўні, 20) Мейсца нячыстае, 21) А пайду-ж я, маці, у поле жыта жаці, 22) Каток, 23) Рыбак, 24) Казельчык і Мурашка; прозай — 25) З гадоў голаду (перакл. з Orzeszko), 26) недакончанае апаведаньне без назову.

Апрача гэтага мы маем багаты этнографічны матэрыял, сабраны Гурыновічам у Сьвенцянскім павеце, які таксама чакае свайго выданьня.

У нашых матэрыялах цэлая маса недакончаных вершаў паміж іншымі, як мы думаем, першы пачатак „Панскага ігрышча“—„Ох-ох-ох, умру ад сьмеху“...

Аўторства „Панскага ігрышча“ даказуецца: 1) сямейнай традыцыяй Гурыновічаў, 2) псэўдонімам А. Гурыновіча, які ў сваёй перапісцы падпісываўся Jerzy або Jurka, 3) вершам „Ох-ох-ох, умру ад сьмеху“.

Гэты верш дзеля свайго зьместу, разьмеру і мовы ня можа быць палічаны нічым іншым, як пачаткам „Панскага ігрышча“. Дзеля вялікшай пластычнасьці самога ігрышча аўтор адкідае папярэдніе моманты і пачынае адразу ад музыкі і скокаў.

Б. Тарашкевіч.



Адам Гурыновіч. 1869 — 1894.

# Да Мацея Бурачка.

Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею,
За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею,
Што між братоў нашых знаходзяцца людзі
З кахаючым сэрцам і баляшчай грудзяй.
Дзякуй табе, браце, і за тые словы,
Што ўспомнілі звукі нашай роднай мовы.
Бяры, браце, дудку, наладзь і жалейку,
Няхай песьня смутная ідзе у калейку
І будзіць у сэрцах мысьль аб лепшай долі,
Якой мы ня зналі дагэтуль ніколі.

А. Гурыновіч.

* * *

Што ты сьпіш, мужычок,
Заплюшчыўшы вочы?
Забаліць табе бок
Спаць ад ночы к ночы!

Агляніся на сьвет,
Падымі галоўку.
Ды што ёсьць, чаго нет
Паслухай-жа моўку:

Глянь! іны мужыкі
Уставаць пачалі.
Што я? хто за такі? —
Раздумываць сталі:

„Ці я зьвер?. ці я птак?..
Ці якая скаціна?

Францішк Аляхновіч.

# НЯСКОНЧАНАЯ ДРАМА

пьеса ў 4-х актах.

(Гл. № 1 і 2).

ВАСІЛЬ. Ведаеш, праз гэты час, як ты ляжала ў бальніцы, я пачаў пісаць новую рэч—драму. Годзі гэтай лірыкі, гэтага пяяньня аб сваіх асабістых пэражываньнях! Хочацца, ведаеш, нечага магутнага, як удар молата па жалезным лісьце... Хочацца закрануць усе нашы важные пытаньні, сьцёбануць па нэрвах, як пугай, апаламіць натоўп! Пішу — і баюся брацца за пяро. Баюся, ці хваце мне сіл, ці ўсё гэтак выйдзе, як я бачу ў думках сваіх. Бо—разумееш—думка, покуль яна сядзіць яшчэ толькі ў галаве, здаецца такой харошай, цікаўнай, бліскучай, а з таго моманту, як ты рэалізаваў яе, пераліў яе ў словы, фразы, зафіксіраваў на паперы — шмат траціць чыстасьці сваіх колераў, а бывае, што і зусім не падобна да гэтых лятуценьняў, якіе прыходзяць да цябе ў госьці ў часіны тваёй самотнасьці... — Вось бяда!.. Але нічога! Покуль што я здаволены з сваей работы. Пішацца лёгка, прыемна, рука ледзь пасьпявае за натоўпам дум, якіе цiснуцца ў галаву... Зьява за зьявай плыве без ніякае натугі, не так, як гэта іншы раз бывае, што трэба думаць, выдумляць, а так неяк выходзе, быццам усё гэта, я ўжо недзе бачыў, можа ўва сьне... Канчаю ўжо другі акт... Затрымаўся пяпер на самым цікаўным момантце... Разумееш, — сонца заходзіць, хаваецца за лес і кідае свой чырвоны бліск на ўсю сцэну... Праз адчыняные на апошнім пляне вокны відаць возера.. Усе сабраліся, быццам прыгнало іх сюды нейкае прачуцьцё..; Ціха,—а возера шуміць... Чуваць навет плёсканьне хваляў... Усе стаяць і чакаюць і кожны з іх ведае, што павінна здарыцца нешта надта важнае, а адзін аднаму нічога ня кажуць. І чуваць толькі плёсканьне хваляў. І вось у гэты мамэнт раптам дзьверы адчыняюцца і ўваходзіць—ён! На ём плашч ажно да зямлі. Усе глядзяць на яго спалоханые і маўчаць... Разумееш? — вялікая доўгая-доўгая паўза, такая паўза, што ажно дых у грудзёх спірае, ажно кроў у жылах халадзее— і вось тут зараз—разьвязка..!

ЯДЗЬКА. Ці ў нас ёсьць толькі адна сьвечка?

ВАСІЛЬ. Адна. А што? Чаму пытаешся?

ЯДЗЬКА. Спаліш усю сьвечку, а як прыдзецца ўначы падагрэць для дзіцяці малако, дык ня будзе што запаліць.

ВАСІЛЬ. Я нядоўга, Ядзя, я толькі напішу адну зьяву.. (*сядае, бярэ пяро, парадкуе паперы, хоча пісаць, але спыняецца*). Вось ты толькі паслухай адзін кавалачак. Ён, значыцца, гэты нябачаны, няведамы, зьявіўся нарэшце... — Тут я хачу паказаць сувязь людзкой душы з прыродай... Тут у душах несупакой — і возера шуміць, быццам адчуваючы гэтае дрыжэньне людзкіх душ... Разумееш?— пагода, ветру няма ані-ні, а хвалі возера шумяць... Дзед гавора да незнаёмага (*пытае*):

Ці здаецца-ж мне так.
Што людзка дзяніна?

Я ня пан!.. мусіць хам!...
А звалі—псяюхай;
Ды казалі — Бог сам
Казаў: пана слухай".

Мужык слухаў яго
Ад веку да веку,
І дажыўся таго,
Што папаў ў апеку.

А цар . . . . . . . . . *)
Сказаў так са злосьці:
— „Што даць маюць ўрагі
Я дам—як з міласьці".

Запяяў наш мужык
Песянку вясёлу:
„Цяпер сяду, як бык,
З панамі да столу".

А і кожан быў рад,
Даждаўшыся волі:
— „Як зрабіў такі лад,
Зробіць ён і болей".

А і ждуць — не даждуць
Ад цара нічога:
— Ці ня здумаў надуць
Мужыка дурнога?

Бо хоць волю нам даў,
Розуму ні крошкі;

Ісьці жыць прыказаў,
Ня відзя дарожкі.

Ханя скрозь настаўляў
Вучылішч, гдзе вёска,
„Букі-аз" — наказаў
Навучаць бярозкай;

А раднога слаўца
Ніхто і ня чуіць:
Толькі так малайца
Саўсім ён сапсуіць,

Ды навучыць рабя
Лаіцца парускі:
„С . . . . сын! я тебя
Засаджу ў кутузку".

„С . . . . сын" ці „пся каць"
Абое—рабое,
Ці-ж ня маюць нам даць
Штокольвек другое?

А. Гурыновіч.

*) Верш прайшоў праз цэнзуру Дэпартамэнту Паліцыі, якая замазала гэты радок.

## Вяльля.

(пераклад з А. Міцкевіча).

Вяльля! ты нашых ручаёў матуля,
Дно залаціста, сама як красуля,
Стройна ліцьвячка, што з ёй бярэ воду
Стройнае маець сэрца і уроду.
Вяльля у мілай Кавенскай даліне
Між туліпанаў і нарцызаў гіне,
Ля ног ліцьвячкі малойцаў цьвет лепшы,
Ад туліпанаў і ад рож страйнейшы.

Хто ты такі? Чаго прыйшоў сюды,
Гдзе людзі ціханька спакойные жылі?
Супольнага што з намі маеш ты?
Ня ведама, ці бачылі цябе калі!

Ен ціхім, але супакойным, роўным магутным голасам адказвае:

Паклікала мяне тут вашых душ туга,
Паклікаў тут мяне сардэчны вашы боль,
І я ляцеў да вас, сьпяшаўся як мага.
На гарфяных струнах іграе бог Эоль,
А я хачу крануць струны няшчасных душ,
Хачу, каб кожны з вас харошы быў і дуж,
Каб сьмела запяяў гімн радасны жыцьця!

(да Ядзькі): Га? Як табе гэта падабаецца?

ЯДЗЬКА. Нічога... Добра... (Васіль пачынае пісаць). Васіль! Дзіця ў начы збудзіцца, будзе плакаць, а ў нас ня будзе навет кусочка сьвечкі, каб запаліць...

ВАСІЛЬ (злы). А чорт!... (задзьмухвае сьвечку, кідае пяро і сядзіць нейкі час, абапёршы галаву на руках. Пасьля ўстае, апранаецца ў паліто).

ЯДЗЬКА. Куды ты йдзеш?

ВАСІЛЬ. Нікуды. Апранаюся, бо сьцюдзена. (сядае на куфэрку каля печы і запаліваё скручапую папіроску).

Паўза.

ЯДЗЬКА. Ці ты ўжо зусім ня маеш грошай?

ВАСІЛЬ. Нічагусенькі!.. Наша справа покуль што дрэнная... Я ўжо страціў галаву... Няма ўжо ніякае ніскуль надзеі штоколечы дастаць... Вось толькі—можа Костусь трохі прынясе...

ЯДЗЬКА. Куды ён пайшоў?

ВАСІЛЬ. Ну, быццам ня ведаеш! Туды, дзе заўсёды.

ЯДЗЬКА. Страціць ён апошніе свае маркі і будзе галадаць разам з намі, як гэта ўжо няраз было... На гэта разлічаць нельга... А калі-б навет і выйграў—годзі ўжо! не хачу я, каб ты яшчэ браў ад яго грошы! не хачу! Лепш ужо паміраць з голаду—а не хачу!!

ВАСІЛЬ. Гэта ты праўду кажаш, Ядзя, што ўжо ня сьлед браць ад яго грошы. Але... але..

ЯДЗЬКА. Ах, Божа мой! Ці скончыцца калі гэта наша мука! Я—да душы—не разумею, чаму гэта мы такіе нешчасьлівые! Усе неяк устрайваюцца, жывуць, як людзі, у нас толькі ніякага сэнсу нямашака. Усе кажуць, што ты здольны чэлавек, ты-ж мог-бы дастаць нейкую добрую службу, а ты сядзіш у гэтай беларускай газэціне, працуеш як вол, і навет на такое-сякое жыцьцё зарабіць ня можаш... Я думаю, каб ты захацеў, дык-бы ў нас бяды гэтакай не было.

ВАСІЛЬ. Вось ўся справа ў тым, што не хачу! Ды апроч таго, куды я магу пайсьці на службу?—У іншую, багацейшую газэту? Дык мне там прыйшлося-б кожны дзень чуць розные лаянкі на беларусаў, а можа і самому пісаць!.. Куды мне ісьці на службу, на якую?.. Э, што тут многа казаць!.. Ніхто мяне ні на якую службу і ня возьме...

(Працяг будзе).

Вяльля ўсё гардзіць даліны цьвятамі,
Бо ішчыць Нёмна сваёга мілога,
Ліцьвячцы нудна міжы ліцьвякамі,
Бо пакахала малойца чужога.
Нёман ухопіць Вяльлю дарагую,
На скалы дзікіе яе перакініць;
Да грудзі сьцюдзёнэй прытуліць мілую
І ў моры глыбокім на векі загініць.
З праходжым таксама бацькоў ты пакінеш,
Разстанешся на век з зямелькай раднаю,
У забыцьці хвалях таксама загінеш,
Але смутнейшай, але сіратою.
Ручэй і сэрпа сьцерагчы дарэмне,
Дзяўчына любіць, плыве ручаіна,
Глянь, Вяльья гініць у каханым Немне,
У вежы плачыць і стогне дзяўчына...

А. Гурыновіч.

# Коопэратары.

У несупакойны час вайны, якая ўскалыхнула ўвесь сьвет, зруйнавала многа цёпланасіджаных куточкаў, гаспадарак і двароў, дрэнна жылося паном большых і малых маёнткаў. Іншыя пашлі шукаць якую-колечы пасаду ў урадовых установах Крэсаў Усходніх, а іншыя яшчэ прабавалі так ці інакш вясьці сваю калісь крэпкую гаспадарку і больш займаліся тым, што распрадавалі пазасталы, яшчэ ня вырубаны сялянамі, лес, аддавалі на спашку часткамі сваю зямлю, ці сполу, ці за трацьціну, і так перабіваліся патрошку.

Няможна сказаць, каб усе даходы з такіх маёнткаў здавальнялі такіх паноў. Прывыклі яны здаўна раскідаць шмат грошы, добра есьці, добра адзевацца, езьдзіць у Вільню, Менск ці ў Варшаву, а на гэткіе паездкі патрэбны былі вялікіе грошы. Дарагоўля-ж на ўсё пазялічвалася. Жыць станавілося ўсё горш, трэба было думаць за што ўзяцца, каб адкуль-небудзь дастаць грошы на пражыцьцё удосыцьце.

У такім самым палажэньнюапынуўся пан Пэмпкоўскі, які меў свой маёнтак каля аднэй з станцый вузкакалейкі у Дзісенскім павеце.

Сядзіць ён і думае, што яму рабіць, каб у кішані завялося троху болей грошай, бо трэба і жонцы купіць то тое, то гэтае, і сабе на пражыцьцё, а грошы ня так ужо шмат. І дадумаўся ён адчыніць свой гандаль, але зрабіць так, як быццам гэта будзе коопэратыў. Ен рахаваў, што будзе для гэтага коопэратыва атрымліваць усе тавары і ад Саюзу Коопэратываў з Вільні і ад аправізацыі, будзе іх прадаваць, а даходы пакідаць сабе.

— Мужыкі пойдуць да майго коопэратыву, бо соль і газа іх загоніць у маю краму, а каб яны не савалі свой нос і ня рабілі ніякіх агульных сходаў, дык пай трэба зрабіць пабольшы, каб мужык ня мог-бы запісацца ў пайшчыкі.

Дадумаўся ён да гэтага і парашыў яшчэ пагаварыць з суседзямі: панамі і падпанкамі, параіцца з імі, бо ўсё роўна-ж трэба будзе каго-колячы запісаць у урад, у рэвізыйную камісію. Аднаму ўсё роўна ўсяго не зрабіць, ды ніхто і не паверыць, што ў яго „коопэратыў“.

Паехаў ён адзін дзень да паўпанка Каркоўскага, які жыў недалёчка ад яго маёнтку і вядомы быў тым, што як трэба было яму ўвосень штосць прадаваць са збожжа, ці з гаспадаркі, дык бывала не яго жыды ашукаюць, але наадварот,— ён заўсёды круціцца, круціцца таргуючыся, а там глядзіш, як жыды зьедуць ужо з двара, дык сьмяецца:—Лён быў троху ў сярэдзіне макраваты. Для вагі. Адсырэў... Ха-ха-ха...

Сьмяшлівы чалавек быў гэты пан Каркоўскі! Дайшло да таго, што жыды, хто ў яго ўжо раз-два пабываіць, баяліся да яго заяжджаць. Але ён гэтага мала сароміўся. Возьме воз, наложыць дабра, ды ў горад, а як прыедзе ўзноў сьмяецца.

— Знайшоў яшчэ аднаго дурня.

Пан Пэмкоўскі добра знаў пана Каркоўскага і, як ішоў да яго, дык думаў:

— Калі яго не ашукаю я, дык пэўна ён ашукае мяне.

Пан Каркоўскі тады, як прышоў пан Пэмкоўскі, якраз быў дома. Трошку пан Каркоўскі зьдзівіўся, што да яго прышоў сам пан Пэмпкоўскі, але як быў ня дурань, нічым не паказаў зьдзіўленьня, паклікаў у лепшую палавіну хаты ды запрасіў садзіцца.

Пачалася гутарка аб тым, аб сім: і што мужыкі дужа крыўдзяць пачалі паноў: лес крадуць, сена закашываюць панскае... Далей гутарка перакінулася на тое, што чуваць у палітыцы, ў Вільні, гдзе ў пана Пэмпкоўскага ў Урадзе Крэсаў Усходніх былі, як ён казаў, усе „свае“ людзі, і ў Варшаве было так сама многа знаёмых.

— Дрэнные часы наступілі. Трэба ў такі час усім дзяржацца ў купе, а то, пся крэў, мужыкі, саўсім разараць,—казаў пан Пэмпкоўскі.

— Калі-ж гэта ўсё скончыцца, панок?

Пан Пэмпкоўскі ўздыхаў, закатываў вочы ўгару і тлумачыў: „свуй до свого“, трэба, каб усюды былі толькі свае. Вось я акурат па аднэй такой справе і прышоў...

Каркоўскі настарожыўся. Ен ведаў, што Пэмпкоўскі не дарма прыйшоў і тое, што яны гавораць, гэта ўсё ня глаўнае, а таксабе—прыказка. Цяпер ён зразумеў, што Пэмпкоўскі пачне гаварыць аб мэце свайго прыходу. Яго гэта цікавіла і спачатку, але проста запытацца было нялоўка, а пакуль яны адзін другога ў гутарцы ашчупывалі, выведывалі.

— Трэба-б было ў нас штосьці зрабіць.

— А што-ж паночку?..

— Вось хоць-бы коопэратыў. Але коопэратыў такі, каб у ім былі ў урадзе „свае“ людзі, а мужыкі каб мелі права толькі купляць тавары.

— Так, так, паночку... Думка дужа добрая, карысная... „Свойскі гандаль“ трэба успамагаць. Добра, паночку, дужа добра!

Ен са слоў Пэмпкоўскага зьнюхаў што тутака для яго пахнець, як гавораць „смажаным“, што каля гэтакага дзела можна будзе і яму скарыстаць нешта.

— Але як-жа гэта зрабіць, паночку?

— Зробім! ўсё зробім, у свой час, трэба толькі яшчэ пагаварыць з кім са сваіх.

— А які-ж узнос, паночку, трэба будзе ўнясьці?

— Узнос трэба не маленькі, бо калі мы зробім яго маленькім, дык усе мужыкі запішуцца і выбяруць у урад сваіх, а нам трэба акурат наадварот: каб у ўрадзе былі нашы людзі. Я думаю, што па некалькі тысячаў трэба будзе вызначыць „пай“. Ну, па пяць тысячаў, ці што.

— Але, паночку, але... а як-жа даходы будуць дзяліцца, па паям, ці яшчэ як?

— Якія там даходы! Даходаў можа і ня быць. Іх можна і не паказываць. Ведаць справы коопэратыву павінны толькі нашы людзі, блізкіе...

— Добра, паночку, дужа добра!.. Дык, калі трэба будзе, я сваю частку ўнясу.

— Але... Ну і добра. Я яшчэ схаджу да ксян-

— Цяпер, паночку, нам трэба па іншай яшчэ справе, а пасьля зойдзем і ў Лігу.

— Ну дык і я вас буду чакаць.

У Саюзе спачатку прынялі пана Пэмпкоўскага дужа добра, але паслалі раней для перагавораў у Інструктарскі Аддзел. А ў гэтым Аддзеле пачалі пытацца ў пана Пэмпкоўскага: хто старшыня, гдзе грошы, хто рахункавод. Як расказаў пан Пэмпкоўскі, што ён самы і старшыня, у яго і грошы, а яго жонка рахункавод, ды што ў іх пай пяць тысяч, а як паказаў яшчэ свой статут і яго разглядзілі, дык сказалі:

— Паночкі! ў вас коопэратыў толькі па назове, а ўзапраўды гэта ня ёсьць коопэратыў. Усё зроблена ня так як трэба. Калі хочаце, каб мы вас лічылі як коопэратыў і выдавалі-б тавары, дык прымеце нармальны статут.

Тады яны пашлі у Лігу.

— Ну, што? былі ў Саюзе коопэратываў?

— Былі, але не падабаецца там нам. Праўда нам казаў, што ня польскі гэта Саюз. Паглядзелі мы там і прыйшлі сюды. Купляць там штоколячы мы адмовіліся.

— І добра зрабілі! Свуй да свэго! Пойдзем, я вас пазнаёмлю са сваімі.

Пан Пэмпкоўскі, тут быў як у сябе дома. Яго ўсе зналі і ён бадай што ўсіх знаў, а калі каго ня знаў, дык раней аб ім штоколячы чуў. Ніхто тут ня пытаўся ні пра рахункавасьць, ні пра статут, а проста павялі ў склад і казалі там выдаць усе тавары, якіе патрэбны будуць пану Пэмпкоўскаму. Некаторых тавараў тут не было і калі ў Лізе даведаліся, што пан Пэмпкоўскі хоча купіць у прыватным гандлю,—дык раілі:

— Калі будзеце купляць, дык ужо ляпей ў польскай гуртоўні „Цап“. Добры склеп! Чыста польскі!

Пан Пэмпкоўскі паслухаў і пайшоў туды. Тавар скора запакавалі, а адзін, з гаспадароў гэтай фірмы, адвеў пана Пэмпкоўскага ў бок.

— Пане! Як пісаць рахунак? Цану мусі троху надбавіць?.. Пэўна-ж пан меў розные расходы.

— Надбавіць? Расходы?... Але, былі расходы.

Лоўкі гандляр падыйшоў да свайго прыкашычка, штось яму шапнуў, і Пэмпкоўскаму далі квіток у касу, на якім была вызначана адна сума, а ў рахунку была вызначана другая. Пан Пэмпкоўскі, разьлічыўся, атрымаў рахунак і навет Каркоўскі, які стаяў тут блізка, нічога ня уцяміў.

Як яны выйшлі з гэтага складу пан Пэмпкоўскі падлічыў, што ад куплі ў гэтай прыватнай фірме ў яго засталося ў кішані некалькі тысячаў грошай. Лоўкі гаспадар! Вось, з гэтакім прыемна справу мець,—думаў Пэмпкоўскі, ідучы ў гасьцініцу поплеч з Каркоўскім.

Каркоўскі тым часам ішоў не вясёлы: усё купляў сам Пэмпкоўскі і яму што-небудзь зарабіць дагэтуль ніяк ня ўдалося. А едучы ў Вільню, ён спадзяваўся, што можа Пэмпкоўскі і яму даручыць штоколячы купіць.

Папіўшы гарбаты ў готэлю, Каркоўскі пакінуў ў пакоі аднаго Пэмпкоўскага, а сам пайшоў у горад.

Пэмпкоўскі, застаўшыся адзін, пачаў яблічаць, колькі ад усей гэтай апэрацыі ён ужо зарабіў і, падлічыўшы, застаўся вельмі здаволяны.

— Абароты коопэратыву павялічацца,— тады можна будзе болей зарабіць.

Вось вярнуўся Каркоўскі. Прынёс ён з сабой вузялок рознага тавару, які купіў за свае грошы, каб прадаваць у крамцы і ўвесь даход класьці сабе ў кішэнь.

Едучы дадому Пэмпкоўскі раіўся з Каркоўскім, што па якой цане яны будуць прадаваць і колькі на што надбавіць. Пэмпкоўскі хацеў каб зрабіць надбаўку як найбольш, лічачы, што пасьля барышом так, ці інакш можна будзе скарыстаць галоўным чынам яму, а Каркоўскі хацеў, каб надбаўка была зроблена, як наймеией, бо спадзяваўся, што тавары, вызначаные таньна, ён прадасьць даражэй і на гэтым што небудзь заробіць.

У канцы канцоў, прыехаўшы дадому, тавар расцанілі і пачалі прадаваць.

Гандаль у краме патроху ішоў, разьбіралі і сябры крамы, але шмат чаго куплялі і сяляне бліжэйшых вёсак. Іх ў сябры коопэратыву ня прыймалі, і ніякага ўплыву на кіручак коопэратыву яны мець не маглі, а ў краму захадзілі так, як звычайна заходзяць ў прыватную краму, гдзе можна дастаць патрэбны тавар, ня будучы саўсім зацікаўленымі аб справах коопэратыву.

Пан Пэмпкоўскі на куплю тавараў браў у сяброў коопэратыву на бальшых працэнтах пазычкі. Гэтые сябры, атрымаўшы ў месяц працэнтаў дзесяць, заставаліся саўсім здаволяны, а пан Пэмпкоўскі карыстаў з усяго больш тым, што браў усе тавары толькі ў прыватнай гуртоўні фірмы „Цап“, гдзе яму заўсёды пісалі рахункі з значнай надбаўкай.

Каркоўскі таксама быў здаволяны, бо ўжо зразумеў як сьлед, што трэба рабіць, каб пры раскупарцы тавараў аказалася-б недастача і на гэта састаўляць акт. Як бываў у Вільні, дык на свае грошы купляў якога-небудзь больш ходкага тавару і прадаваў яго ў краме. Пан Пэмпкоўскі гэта ведаў, але нічога не казаў, памятаючы разумную прыказку: „рука руку мые“.

Пані Пэмпкоўская атрымлівала пэнсію за рахунковасьць. Рахунковасьць вялася нейкая зразумелая толькі самому пану Пэмпкоўскаму.

Ксёндз быў здаволены таксама, бо крама бадай што саўсім не займала яму часу. Усё робілі пан Пэмпкоўскі і Каркоўскі і яму прыходзілося толькі расьпісывацца, атрымаўшы пэнсію.

Надумаліся неяк сяляне недалёкіх ад маёнтку пана Пэмпкоўскага вёсак залажыць новы коопэратыў, ў якім пай быў меншы, каб усе маглі быць пайшчыкамі і мець голас. Пачуўшы аб гэтым, пан Пэмпкоўскі гэтак напалохаўся, што паехаў да ксяндза і паехаў з ім у Вільню да нейкіх знаёмых, каб пашкодзіць адчыніць гэты коопэратыў. Колькі сяляне не клапаціліся, колькі ня езьдзілі ў Вільню, нічога не маглі зрабіць,—не дазвалялі ім адчыніць свой коопэратыў, пакуль яны не зьвярнуліся да Саюзу Коопэратываў, гдзе ім параілі, як трэба зрабіць і навет узяліся арганізаваць усю справу, прыслаўшы на месца інструктара.

Як адчыніўся коопэратыў у вёсцы, коопэратыў ў маёнтку пана Пэмпкоўскага стаў усё горш і горш весьці гандаль і ўрэшце саўсім зачыніўся.

С. Чыжэўскі.

# Беларуская хроніка.

## Беларускі Саюз Сельскай Гаспадаркі

7 красавіка адбыўся сход Рады Саюзу, на якім пастаноўлена арганізаваць на правінцыі сельска-гаспадарчые гурткі, карыстаючыся інструктарскім пэрсоналам Віленскага Саюзу Коопэратываў.

Прыняўшы пад увагу агульнае зьніштажэньне сельскай гаспадаркі на тэрыторыі Сярэдняе Літвы, пастаноўлена зьвярнуцца да Дэпартаманту Земляробства з мэморыялам, у якім выказваецца патрэба выдаць загады аб забароне рэзаць расовую і малочную жывёлу. Дзеля адзначэньня расовых і малочных кароў Беларускі Саюз Сельскае Гаспадаркі будзе пасылаць сваіх інструктароў, якіе ў прысутнасьці прадстаўнікаў ад мясцовых сельска-гаспадарчых гурткоў будуць выбіраць лепшые расовые і малочные штукі, і выдаваць часовые абаронные пасьведчаньні.

У справе барацьбы з чумой пастаноўлена зьвярнуцца да ўрадовых, грамадзянскіх і вайсковых установ з адозвай, каб прыйшлі на помач дзеля ратаваньня жывёлы. Таксама пастаноўлена надрукаваць адозвы з кароткім апісаньнем хваробы і мэтодаў барацьбы з ёю.

Пастаноўлена арганізаваць малачарскіе таварыствы дзеля атрыманьня большай колькасьці масла ў замен за зьменшаньне колькасьці мяса пры абароне расовых і малочных кароў.

Палажэньне нашае старонкі ў паласе фронту сусьветнае вайны, якая зруйнавала цэлые мястэчкі і вёскі, пакінуло жыхароў бяз хат і у голадзе. Большая частка прыфронтовых вёсак і дагэтуль яшчэ корміцца мякінай, карой ды травой. Каб устрымаць выміраньне вёскі, трэба арганізаваць шырокую гаспадарчую помач у засевах палёў. Дзеля гэтага пастаноўлена прасіць Дэпартамэнт Земляробства, каб ён дастаў насеньня для справядлівага разьдзелу паміж жыхароў вёсак. З гэтай мэтай Саюз Сельскае Гаспадаркі ўваходзіць у зносіны з Віленскім Саюзам Коопэратываў, каб для вялікшай хуткасьці выкарыстаць і іхні апарат, бо справа пільная.

Пастаноўлена надрукаваць асобную адозву, заклінаючую ўсіх, хто жадае творчай працы на ніве сельска-гаспадарчай адбудовы краю, групавацца каля бел. Саюзу Сельск. Гаспад., гдзе будзе весьціся рэгістрацыя аграномаў і с.-гасп. тэхнікаў. Дзеля павялічэньня ліку тэхнікаў пастаноўлена стварыць кароткасрочные курсы.

### Беларускі тэатр.

21 красавіка ў Гарадзкой Салі адбудзецца на карысьць незаможных вучняў беларускіх школ спэктакль. Пастаўлена будзе пьеса ў 3 акт. са сьпевамі і танцамі „Птушка шчасьця" Аляхновіча. Пасьля спэктаклю канцэртны аддзел, у якім прыймае учасьце вядомы ў Вільні Славянскі хор.

Пасьля канцэрту скокі да 5 гадз. раніцы.

### Беларуская моладзь

Выйшаў № 2 „Маладое Жыцьцё", часопісі, выдаванай у Вільні праз беларускую моладзь. № 2 робіць вельмі сымпатычнае ўражэньне.

Моладасьць—гэта ёсьць той каваль, як кажа паэта, што выкоўвае ўсё жыцьцё. Зярнё, ўпаўшае ў душу моладзі, дае багаты ўсход і ўзгадоўвае будучых грамадзян, якіе прыйдуць на зьмену старым, каб змагацца за нашу справу. У „Мал. Жыц." у кожнай стацьці прабіваецца грамадзкае пачуцьцё і нацыянальная сьвядомасьць. З усяе душы жадаем нашай моладзі далей з усьпехам весьці распачатую працу, узгадоўваючы маладые душы да падарожы па цярністым шляху, якім ішло і йдзе наша старае пакаленьне з верай у сваю справядлівую справу.

### Сэмінарыя у Барунах.

„Кгупіса" паведамляе, што беларуская сэмінарыя ў Барунах сёлета яшчэ не будзе зачынена.













Друкарня „ДРУК", Вострабрамская, 5. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШК АЛЯХНОВІЧ.